*Василий КОТИКОВ*

# ПОВЕСТИ ЗАЙКИНА

***(Продолжение. Начало в N 9.)***

## *За что? Или случай на сенокосе*

Сенокос Ваня любил. О, это такая красатища! Он еще в пятый класс ходил, а отец его уже брал с собою на луг, когда косил свою «дачку». На зорьке утром ранехонько встать... Как любил это Ваня.

Бывало, еще до сенокоса, только начнется лето, в доме все еще спят, а он откроет настежь окно, кладет на подоконник тетрадь, берет в руки химический карандаш и давай писать стихи... Устанет — и опять спать. И начал он так еще с первого класса. Подобные «утренники» происходили у него чаще всего в полнолуние.

Проснется ночью или на зорьке — луна в окно смотрит. Он ей весело улыбнется, встанет с постели и бежит на улицу, к своей небесной подруге. И там, на улице, начинает благодарить свою неземную подругу, что разбудила его. А луна так мило, так весело, так задорно, так счастливо смеется ему в ответ. И в ночной тишине Ване кажется, что он слышит ее голос: «Ты молодец, Ванечка, ты не соня, тебе надо сейчас спать — ведь на часах стрелки уже на двойке. Таких, как ты, мало, все мальчики и девочки спят. А ты вот не спишь. Я понимаю тебя, ты в меня влюбился. Ну, так знай же, милый Ваня, я тоже люблю... Я даже знаю все твои стихи, которые ты мне посвятил. Ах, Ваня, Ванечка, милый, дорогой, золотой Ванечка, зачем ты сжег все свои стихи?.. Ой, какой ты глупенький.

— Я еще напишу...

— Напишешь, я знаю, что напишешь, но уже другие. Таких, как те, уже не будет... Ах, Ваня, Ваня... Ты уже и не маленький, ведь пятиклассник уже! А такой пока глупенький: «Я еще напишу». Надо беречь свой труд, после будешь жалеть, что не берег. Ну, пусть ответила тебе редакция, что Луна твоя им не светит. Ну и что с того? Главное, что я тебе свечу.

— Луна, миленькая, куда сегодня пойдем?

— Сходим к пруду, где вы вечером играли в хоккей. Полюбуешься какой лед.

...Ваня тяжело вздохнул: — надо же — вспомнилось то далекое-далекое лето. Он взял наклепаную еще с вечера косу и пошел на луг. Первым делом посмотрел на небо, хотел увидеть свою ночную подругу. Но он ее не увидел. На небо набежали облака и скрыли небесную красавицу. Неужели что-то сегодня случится? Ведь рассвет не очень-то веселый, значит, и у меня что-то случится нехорошее... Хотя — чего это случится. Оно уже случилось, Валя, затеяв ни с того, ни с сего ссору, нашла повод придраться за то, что не имею своей «бабки» для клепания косы, бруска или лопаточки и косу также беру у отца. Оправдывался как мог, а она: «Ты только и знаешь — писать свои дурацкие стишки, больше у тебя ничего на уме. Уже сколько дней не спали вместе. Она — в одной спальне, он — в другой...»

Ваня не взял на сенокос ничего поесть. Подумал — лучше сама пусть принесет. Может, и примирение с того начнется.

Вот он и луг... Ваня отыскал нужную вешку: «Золотцев Иван, 20 метров» Пришел первым. Еще никого не было на лугу. Даже старики проспали восход солнца. Быстренько, на глаз, как учил отец, «задним ходом» пробежал межи и начал косить. Косить весело, с радостью. Покосы были около двух метров, захват на всю косу. Коса аж пела. Вот стал точить косу и на память пришло стихотворение, которое он сочинил, когда в детстве прибегал к дедушке на луг, где тот косил свою дачку...

Но вот уже то там, то тут начали звенеть косы, а у самой реки кто-то начал косу клепать: «Вот это — настоящий хозяин, — отметил про себя Ваня, — этого жена не будет ругать. Чуть что — он ее или словом или кулаком, сразу поставит на место.

Уже дело и к обеду, пора бы и Вале придти, но ее нет и нет... Для передышки сходил к речке, попил воды. Затем стал опять косить. Вот уже и вечереет: А Вали нет. И уже когда солнышко вот-вот должно было лечь в свою постель за горизонтом, пришла Валя. Но с пустыми руками. На Ванин вопрос: «Перекусить что принесла?» — она со злом ответила: «Не барин, мог сам себе взять». Ване оставалось пройти пару покосов и вся дачка будет скошена... И тут он услышал шум машины... Кто бы это мог ехать? Ведь ни у кого еще не готово сено. Ваня взглянул на Валю. Она не отрываясь смотрела в ту сторону, откуда ехала машина. Вот она остановилась уже метрах в 20-ти от Ваниной полосы. Из кабины выскочил молодой круглолицый парень: «А, все ясно. Это Валин первый ухажер Петя.

— Валя, — крикнул он, — обращаясь к Ваниной жене, — подскажи или покажи, где воды набрать, долить в радиатор.

Валя только этого и ждала. Она побежала к машине. Дверка кабины открылась, она села в кабину, дверка закрылась и машина тронулась с места. Ваня косу на плечи и пошел домой. Но отойдя метров сто двести от полосы, остановился.

Надо подождать Валю. Он стал под старой вербой. Над Меловкой всходила полная луна. Ваня прямо кипел. Это же надо так поступить? Почему я не показал ему сам, где можно набрать воды... Но Петя ведь обратился лично к ней... А что тут размышлять? У них все было договорено. На глазах у Вани навернулись слезы... и он сгорбившись пошел домой. Чем больше он жалел себя, тем крупнее слезы лились из его глаз. — За что, за что? — шептал он. — За то, что только звал ее Валечка, милая. За то, что и полы мыл, и стирал, и по хозяйству все сам, даже корову доил. А может, она собирается меня бросить? За что? И отвечал сам себе: — Пожалел — так тебе и надо, получай...»

***(Продолжение следует.)***

**З энцыклапедыі народнай медыцыны**

## *РЭЦЭПТЫ ПРЫГАТАВАННЯ СУПРАЦЬ ГРЫПОЗНАЙ ГАРБАТЫ*

1 чайную лыжку збору (кара івы белай, кветкі рамонку аптэчнага, плады шыпшыны — пароўну) заліць шклянкай кіпеню, настояць 10 хвілін, працадзіць і адціснуць раслінную масу. Прымаць па 1/3 шклянкі настою (цёплым) 3 разы на дзень за 15 хвілін да яды. Калі ж вам не ўдалося пазбегнуць інфекцыі і вы ўсё ж захварэлі, то:

**1.** Як мага часцей пейце гарачую гарбату з лімонам ці малінавым варэннем, а таксама цёплае малако з мёдам (1 сталовая лыжка на 1 шклянку).

**2.** Прамывайце кожную гадзіну нос і горла настоем цыбулі з мёдам (1:1) ці растворам солі, соды і ёду; раствор уцягвайце носам, а выдаляйце праз рот.

**3.** Закапвайце ў нос па 5 кропель свежага соку алоэ ці каланхоэ кожныя 2-3 гадзіны на працягу 2-3 дзён.

**4.** Натрыце на тарцы цыбуліну, залейце паўлітрам малака, якое кіпіць, дайце настаяцца ў цёплым месцы; палавіну выпейце гарачага настою нанач, палавіну раніцай (таксама ў гарачым выглядзе).

**5.** Пры устойлівых галаўных болях прымайце мёд з яблычным воцатам (2 чайныя лыжкі мёду, 2 чайныя лыжкі воцату на 1 шклянку вады). Піць кожны дзень, пакуль хвароба пройдзе, і яшчэ з тыдзень пасля, для страхоўкі.

**6.** Знахары прапануюць 20 г праполісу развесці ў 100 г спірту (ці першаку) і прымаць па 40 кропель, якія накапаць на хлеб і есці.

**7.** Дапамогуць ад галаўнога болю лячэбная гарбата з лісцяў скрыпеню вузкалістага (Іван-чаю).

**Куток гаспадыні**

## ПРЫ ХВАРОБАХ СЭРЦА, НЫРАК І ГІПЕРТАНІІ

### *ХАЛАДНІК НА ФРУКТОВЫМ НАСТОІ*

Сырыя гуркі і бульбу, адвараную «ў мундзірах», ахаладжаную і ачышчаную, нарэзаць кубікамі. Салату, пятрушку, кроп дробна нашынкаваць. Зварыць укрутую яйка і бялок пакрышыць, а жаўток працерці праз сітца і змяшаць са смятанай. Усё гэта заліць фруктовым настоем, дадаць гародніну, зеляніну, цукар і лімонную кіслату.

Для прыгатавання фруктовага настою трэба ўзяць 100 г яблыкаў ці 25 г сухафруктаў, заліць дзвюмя шклянкамі вару, даць закіпець і пад накрыўкай настойваць 3-4 гадзіны.

*Замест фруктаў можна ўзяць 100 г рэвеню ці 20 г шыпшыны. Гуркоў свежых — 100 г, салаты лісцявой — 10 г, зеляніны пятрушкі — 5 г, бульбы — 60 г, кропу — 5 г, 1 яйка, смятаны — 50 г, цукру — 5 г, лімоннага соку — 5 г і фруктовага настою — 400 г.*

Гэта ўсё на адну порцыю.

### *СУП МАЛОЧНЫ З ГАРБУЗАМІ І МАНКАЙ*

Гарбузы ачысціць, нарэзаць невялікімі кавалкамі і тушыць з вадою да гатоўнасці, пасля чаго працерці праз сіта разам з вадкасцю. Адначасова закіпяціць малако, заварыць у ім манку, гатаваць 10 хвілін, злучыць з працёртым гарбузом і дадаць цукар. Падаць да стала з маслам.

*Малака — 350 г, гарбуза — 100 г, манкі — 25 г, цукру — 15 г, масла сметанковага — 10 г, вады — 100 г.*

### *СУП ЯБЛЫЧНЫ НА АДВАРЫ ШЫПШЫНЫ*

Шыпшыну заліць варам, закрыць накрыўкай і варыць 5 хвілін, пасля чаго настойваць 3-5 гадзін, затым працадзіць, дадаць цукар і карыцу, даць закіпець, дадаць дробна нашынкаваныя ці нацёртыя яблыкі і ахаладзіць. Нарэзаць хлеб дробнымі кубікамі, і падсушыць у духоўцы і падаваць да супу.

*Яблыкаў — 150 г, шыпшыны сушанай — 20 г, цукру — 25 г, карыцы — 0,1 г, хлеба белага — 50 г і 500 г вады.*

### *ЗРАЗЫ МАННЫЯ З МЯСАМ*

У малако, якое кіпіць з 5 грамамі масла, паступова ўсыпаць крупы, хуценька памешваючы лыжкай, і на слабым агню гатаваць яе 10 хвілін, затым дадаць сырое яйка, добранька перамяшаць і раздзяліць на 2-3 ляпёшкі.

Адначасова зварыць мяса, двойчы прапусціць яго праз мясарубку, раскласці на ляпешкі, краі іх злучыць, надаўшы форму піражкоў, абваляць у муцэ і абсмажыць.

*Манкі — 50 г, малака — 150 г, мяса — 80 г, масла сметанковага — 20 г, палавіну яйка, мукі пшанічнай — 10 г.*

### *БІФШТЭКС З ВАРАНАГА МЯСА З ЦЫБУЛЯЙ*

Мяса ачысціць ад сухажылля і часткова ад тлусту, злёгку адбіць цяпкай і надаць форму бліна. Дно каструлі змазаць маслам, пакласці мяса, да палавіны заліць вадой, закрыць накрыўкай і гатаваць 5-7 хвілін, пасля чаго выцягнуць мяса, даць яму злёгку абсушыцца і абсмажыць на масле з абодвух бакоў.

Ачышчаную цыбулю нарэзаць кружочкамі, разабраць на калечкі, зварыць у вадзе да паўгатоўнасці, адкінуць на сіта і даць падсохнуць, потым абсмажыць на масле, засыпаць біфштэкс смажанай цыбуляй і падаваць.

*На гарнір — смажаную бульбу, капусту, гарбуз — што спадабаецца. Мяса (выразка) — 150 г, масла — 25 г, цыбулі — 50 г.*

**Гаючая Флора**

## МАЦЯРДУШКА (ДУШЫЦА)

Мацярдушку лепш за ўсё збіраць у пачатку цвіцення (ліпень, жнівень). Выбіраць для сушкі зялёна-фіялетавае лісце. Высушаныя, перацёртыя лісты захоўваюць у закрытых слоіках у цёмным месцы. Колер высушанай мацярдушкі светла-зялёны з шэраватым адценнем валодае гаючым эфектам.

Гіпакрат, Арыстоцель, Дзіаскарыд, Пліній-старэйшы рэкамендавалі кветкі і лісце з віном супраць усемагчымых укусаў. Настой палягчае менструацыю, здымае боль. Уся расліна — настой, адвар, ванны — ад затрымкі менструацый (адзін са старажытнейшых сродкаў аборту).

У гомеапатыі мацярдушку выкарыстоўваюць пры парушэнні сексуальнай сферы: эротаманіі, ананізме.

Мацярдушка цудоўна заспакойвае нервовую сістэму. Яе карысна дадаваць у гарбату, кампоты.

Жанчыны, якія адчуваюць дэпрэсію ці беспакой перад наступленнем, у час ці пасля менструацыі, могуць атрымаць нядрэнны вынік, калі будуць ужываць мацярдушку штодзённа на працягу 3-4 месяцаў. Потым, пасля паляпшэння стану, пажадана працягваць піць гарбату з душыцай на працягу 5-7 дзён, пачынаючы гэта рабіць за 2-3 дні перад пачаткам менструацый.

Таксама рэкамендуецца піць гарбату з мацярдушкай жанчынам, у якіх клімакс працякае са сталымі, частымі (да 30 разоў за дзень) прылівамі, моцнымі крывацячэннямі, што прыводзяць да анеміі, пры прыгнечаным стане псіхікі.

У старыя добрыя часы, калі медыкі яшчэ не прыдумалі такую працэдуру, што калечыць і прыніжае годнасць, як аборт, знахары выкарыстоўвалі мацярдушку для таго, каб мякка «выганяць» плод. Яшчэ Авіцэнна пісаў аб гэтых уласцівасцях мацярдушкі, папярэджваючы, што паўторнае прымяненне недапушчальна на працягу аднаго года. Але вынік становіцца больш эфектыўным, калі адначасова ужываць піжму звычайную.

Гарбата з мацярдушкай, калі яе паўсядзённа ўжываць кормячай маці, павялічвае лактацыю.

Дапамагае гэтая расліна і пры хранічным алкагалізме. Рэцэпт: 1 сталовую лыжку травы на шклянку кіпеню, настойваць 20 хвілін. Працадзіць і піць па 50 г двойчы на дзень (раніцай і перад сном) на працягу месяца-паўтары. Ці на шклянку кіпеню бяруць 2 чайныя лыжкі дробна нарэзанай мацярдушкі, настойваюць 15 хвілін, п'юць па паўшклянцы тры разы на дзень павольнымі глыткамі.

Выкарыстоўваць яе пры засолцы гуркоў, памідораў, грыбоў. Верхнюю частку сцябла свежай або сушанай травы з лісцямі і кветкамі, разам з лісцем дуба і вішні. Мацярдушка надае саленням прыемны водар, яны даўжэй захоўваюцца. Дастаткова эфектыўна мацярдушка ў выглядзе гарбаты, яе можна піць без абмежавання для змяншэння павышанай палавой узбруджальнасці. Што цудоўна, дык гэта тое, што мацярдушка не паслабляе мужчынскую патэнцыю, але пасля яе ўжывання рэгулярна, наступае душэўны і фізічны спакой, знікаюць знясільваючыя палюцыі.

У старыя часы, калі трэба было аднавіць менструальны цыкл пры яго затрымцы, выкарыстоўвалі просты і даступны сродак: гарбату з мацярдушкі, якую пілі штодзённа.

**Рэцэпт:**

2-3 драбкі (шчэпці) травы кідалі ў невялікі фарфуровы заварны імбрычак. Піць 2-3 чашкі на дзень, забельваць малаком і падсаладжваць мёдам.

Пры раннім клімаксе карысць ад мацярдушкі бясспрэчная для ўзнаўлення, прадаўжэння актыўнай дзейнасці яечнікаў. Але цяжарным жанчынам ужываць мацярдушку супрацьпаказана.

### *Віншаванне*

Віншуем каханую жонку і маці **АНДРЭЕВУ Алену Андрэеўну** са святам жанчын — 8 сакавіка! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і даўгалецця.

**Твае муж і сын, г.п. Хоцімск.**

### *Анекдоты*

Клиент:

— Не возьметесь ли вы вести мое дело о разводе? Жена мне изменяет!

Адвокат:

— У вас есть достаточные доказательства этого?

Клиент:

— А как же! Вчера она пришла домой очень поздно и сказала, что была у своей юной подруги Алисы, а на самом деле в это время с Алисой был я сам.

* * *

Хоккейный матч. Комментатор:

— Пас вперед! Удар! Шайба летит в комментаторскую кабину!

...Шмена шоштавоў.

**Беларускі гумар**

### НЕ ДАРУЕ

Жонка збегла прочкі ад мужа. А праз нейкі час вярнулася. Просіць мужа дараваць. А муж і кажа:

— За тое, што збегла, магу дараваць, а вось за тое, што вярнулася — ніколі!

### ПРЫЕМНЫ СОН

Муж звяртаецца да жонкі:

— Ты ведаеш, Тэкля, сёння ноччу мне штосьці вельмі добрае прыснілася.

— Я так і здагадалася. Не дарэмна ты ў сне крычаў: «Давай, Мойша, яшчэ кварту!»

### НЕ ПАЗНАЎ

Вяртаючыся з кірмашу мужык прылёг ля гасцінца і заснуў, ды так моцна, што не пачуў, як знялі боты. Едзе па гасцінцу нейкі чалавек, убачыў соннага чалавека на шляху і крычыць яму з фурманкі:

— Убірай ногі!

Ачумелы мужык глынуў з прасонку на свае босыя ногі і кажа:

— Праязджай! Гэта не мае ногі, мае ў ботах.

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670. Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89.

**Рэгістрацыйны N 141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 24 гадзіны 7 сакавіка 2001 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Наклад 3751 ас. Аб'ём I друк. аркуш. Заказ № 10.

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ.**